# IX-ая Канфэрэнцыя Лігі Вызваленьня Народаў СССР

## (Парыскага Блёку)

**(Ад собскага карэспандэнта)**

У дадатак да апублікаванага намі ў перадмінулым нумары «Бацькаўшчыны» камунікату Лігі Вызваленьня Народаў СССР аб IX-ай Канфэрэнцыі, гэтта зьмяшчаем яшчэ дзьве рэзалюцыі й зварот да афра-азіяцкіх новапаўсталых, як незалежныя дзяржавы, народаў. Уважаем пры гэтым патрэбным даць нашым чытачом трохі шырэйшых інфармацыяў аб самым прабегу Канфэрэнцыі гэтае арганізацыі зь некаторымі спасьцярогамі нашага карэспандэнта, прысутнага на Канфэрэнцыі.

Як ужо было паведамлена ў Камунікаце, Канфэрэнцыя трывала ад 27-га кастрычніка да 2-га лістапада ўлучна. Ад 10-ёх нацыянальна-палітычных цэнтраў, сяброў Парыскага Блёку, прыймала ўдзел у Канфэрэнцыі 58 асобаў у якасьці ўпаўнамочаных дэлегатаў. Пяць нацыянальных цэнтраў мусульманскіх народаў (Азэрбайджанцаў, Паўночных Каўказцаў, Ідэль-Уральцаў, Туркестанцаў і Крымскіх Татараў) рэпрэзэнтавалі іх старшыні, прыехаўшыя з Турэччыны, папоўненыя дэлегатамі іхных суродзічаў, пражываючых у Эўропе. Такім чынам паўночна-каўкаская дэлегацыя была рэпрэзэнтаваная пад старшынствам Казі Хана Бэзольта, ідэль-уральская — пад старшынствам генэрала Сакмара, азэрбайджанская — д-ра Одэра, туркестанская — д-ра Чагатая й крымская — пад старшынствам адваката Улкусала. Украінскую дэлегацыю ў ліку 6 асоб ачольваў прэм'ер экзыльнага ўраду УНРады сп. М. Лівіцкі, Грузінскую ў ліку 4 асоб — старшыня Грузінскай Нацыянальнай Рады сп. Ной Цэнцадзэ.

Беларуская дэлегацыя ў ліку 4 асоб (сп. сп. Ул. Бортнік, Ул. Цьвірка, Ю. Сенькоўскі) ачольваў прэзыдэнт Рады БНР інж. М. Абрамчык. Кажная дэлегацыя, зразумела, пры галасаваньні карысталася правам аднаго голасу, незалежна ад ліку дэлегатаў.

### Пытаньне ўдзелу казацкай дэлегацыі

З самага пачатку, пасьля адкрыцьця Канфэрэнцыі, узьнікла пытаньне аб правамоцнасьці казацкай дэлегацыі.

У казацкім нацыянальным цэнтры (Вярхоўным Казацкім Прадстаўніцтве) стаўся нутраны падзел. З аднаго дагэтуль цэнтру зьявіліся дзьве дэлегацыі, кажная зь якіх узаемна намагалася дыскваліфікаваць другую, даводзячы ейную бясправўнасьць. Дзеля гэтага Канфэрэнцыя вызначыла была спэцыяльную камісію ў складзе трох асобаў (Туркестанца Бердзі Мурата, Паўночнакаўказца сп. Байтугана й Украінца праф. Главінскага). Заданьнем камісіі было вывучыць пададзеныя матарыялы абодвымі бакамі й прадставіць Канфэрэнцыі сваю прапанову, а тымчасам абедзьве казацкія дэлегацыі лічыліся прысутнымі на Канфэрэнцыі, да разьвязаньня іхнае справы, у якасьці абсэрватараў.

Прадстаўлены потым даклад камісіі прывёў Канфэрэнцыю да такой пастановы, што ніводная зь дзьвюх прэтэндуючых дэлегацыяў Вярхоўнага Казацкага Прадстаўніцтва ня можа лічыцца дастаткова кваліфікаванай дзеля рэпрэзэнтацыі тэй казацкай арганізацыі, якая была прынятая ў Лігу (Парыскі Блёк) у 1956 годзе.

Дзеля таго, пакуль ня будзе праведзеная дастаткова патрэбная нутраная кансалідацыя сярод Казакоў, месца казацкага прадстаўніцтва ў Лізе пастаноўлена ўважаць вакантным.

### Справаздачы Выканальных Органаў Лігі

Справаздачу аб дзейнасьці Лігі наагул ад імя Прэзыдыюму даваў прэз. М. Абрамчык, ад імя Кантактнай Камісіі, дакладней па лініі супрацоўніцтва з Амэрыканскім Камітэтам Вызваленьня даваў старшыня гэтае Камісіі сп. Н. Цэнцадзэ, аб выданьні воргану Лігі «Problems of the Peoples of the USSR» сп. інж. С. Даўгаль.

Прэз. Абрамчык у сваім гадзінным дакладзе намаляваў абраз усіх тых складаных вонкавых і нутраных абставінаў, у якіх прыходзілася працаваць, і ўсе тыя мерапрыемствы канкрэтнае працы Прэзыдыюму Лігі, якія праводзіліся на працягу апошняй гадавой кадэнцыі.

Дакладчыкам было між іншым адцемлена, што ня гледзячы на тое, што дзейнасьцяй Лігі ці, лепш кажучы, справай вызвольных рухаў нашых народаў штораз больш цікавяцца выдатныя палітычныя й грамадзкія дзейнікі Эўропы (Францыі, Нямеччыны, Ангельшчыны, Бэльгіі й інш.) і што Ліга набывае штораз большы ў іхных вачох аўтарытэт, нельга аднак было дабіцца ад гэных дзейнікаў канкрэтнага практычнага ўдзелу ў нашай вызвольнай акцыі. У пэрспэктыве, аднак, дакладчык уважае справу падтрыманьня нашых вызвольных рухаў з. боку заходняэўрапэйскіх народаў пэўнай і надзейнай.

Тымчасам-жа ў мінулым годзе, як і ў папярэдніх гадох, найбольш рэальная падтрымка Лізе была аказаная з боку амэрыканскіх палітычных і грамадзкіх колаў, хоць і ў далёка нявыстарчальнай форме.

Дакладчык падрабней затрымаўся на справаздачы із свайго 4-охмесячнага побыту ў Задзіночаных Штатах Амэрыкі — на спатканьнях там з радам выдатнейшых і ўплывовых грамадзкіх і палітычных дзейнікаў і іхных абяцаньнях маральнае нам падтрымкі. Што датычыць супрацоўніцтва Лігі з Амэрыканскім Камітэтам Вызваленьня, то прэз. Абрамчык хоць і ўважае значным дасягненьнем Лігі ў гэтым годзе ў кірунку каардынацыі дзейнасьці Лігі з апошнім (стварэньне Кантактнай Камісіі з 3-ох дэлэгатаў ад Лігі й 3-ох ад Амэрыканскага Камітэту для ўзгодніваньня кірунку й арганізацыі самога супрацоўніцтва ў змаганьні з бальшавізмам для вызваленьня нашых народаў), уважае аднак таксама за недастатковае выкарыстаньне тых магчымасьцяў, якімі распараджаецца Амэрыканскі Камітэт і якія мог бы ён аказаць Лізе ў ейнай практычнай працы. Прычынай гэтаму — цэразьмерны бюракратызм Амэрыканскага Камітэту. Залішняя грамоздкасьць чыноўніцкага апарату, недастатковасьць, каб не сказаць адсутнасьць у ім ідэйна-рэвалюцыйнага элемэнту, так неабходнага для зьдзейсьненьня тых заданьняў, якія сабе паставіў Амэрыканскі Камітэт, зьяўляецца галоўнай прычынай малой эфэктыўнасьці ягонае дзейнасьці.

На заканчэньне сваей справаздачы прэз. Абрамчык прадставіў, якімі сьціплымі матарыяльнымі сяродкамі дыспанавала Ліга, што зрабіла цяжкае ўражаньне на ўсіх дэлегатаў Канфэрэнцыі, бо-ж зводзіліся яны **вылучна** да самаахвярнасьці сяброў Лігі, у бальшыні **адных сяброў Прэзыдыюму.**

Сп. Цэнцадзэ ў сваей справаздачы аб дзейнасьці Кантактнай Камісіі, падчыркваючы таксама значнае дасягненьне Прэзыдыюму ў гэтым годзе фактам паў-

(Заканчэньне на 3-яй бач.)

# Чужніку чужое...

(Заканчэньне зь 1-ай бач.)

І хто-ж, будучы ў Беларусі падчас вайны, ня прыгадвае, як узброеныя чужнікі стукалі ў сялянскія дзьверы, просячы што зьесьці, і як спрацаваная сялянская рука дзялілася часта апошнім. Хто-ж ня помніць сьцюдзёных зімаў і тысячаў гоненых па дарогах палонных, чужых у бальшыні, ды беларускіх сялянак, што пры вёсках выходзілі да дарог і падносілі што маглі й што мелі з харчоў...

І паўстаюць вобразы з другога боку. На пачатку сьпякотнага жніўня 1944-га году Школа Камандзераў Беларускае Краёвае Абароны праходзіла праз вёску Альшэўку каля Цяханава на Мазуршчыне. Маладыя, пераважна 18—19-ці гадовыя кадэты зрабілі ў той дзень вялікі кавалак дарогі. Дробны едкі дарожны пыл еў вочы, душыў горлы. Дакучала нязносная смага. У вёсцы ня відаць было жывое душы. Пярэдні з калёны Кастусь К. заўважыў пры аднэй хаце старую жанчыну.

— Матка, ці ня будзеце ласкавы сказаць, дзе тут можна вады ў вас напіцца? — спытаў Кастусь.

— А вось пройдзеце якія чатыры двары й там пры самай вуліцы бочка з вадою стаіць, — не заікнуўшыся параіла старая.

Кадэты здалёк запраўды пабачылі пры вуліцы бочку й аж зьняможаныя ногі жвавей пачалі рухацца. Бочка запраўды была напоўненая, але... смалою.

І ў Усходняй Прусіі ў вёсцы Альбрэхтаў тыя-ж самыя кадэты, пасьля доўгага маршу з-пад Варшавы, разьмясьціліся па сялянскіх пунях. Надта дакучаў голад. Ходзячы па вуліцы яны з прагнасьцю пазіралі на зьвісаўшыя пад цяжарам дасьпяваючае садовіны сукі буйных дрэваў. З прускіх хатаў сачылі за імі, быццам за зладзеямі, шматлікія пары вочаў, а малыя прусакі-падросткі, што швэндаліся ў хвасьце маладых жаўнераў бесьперапынна крычалі: «Яблыкаў не чапайце! Тут вам не Расея!»

Уладзімер Глыбінны ў кагадзе друкаванай у «Бацькаўшчыне» навэлі «Сьмерць Гайнрыха Шлегеля» малюе лёс нямецкага палоннага, што знайшоў дабрату й зычлівасьць сярод саміх-жа нявольнікаў, калгасьнікаў Беларусаў. Палюбіў народ і ягонае добрае сэрца. Але вось нарэшце прыходзіць доўгачаканы дзень і Гайнрых вяртаецца ў родную нямецкую мясьціну. Ужо вунь відаць хата, ужо Немец уяўляе сябе ў вабдымках жонкі й радні. Гайнрых галодны, а тут пры дарозе расьце агароднiна. Воддаль відаць постаць працуючага нямецкага селяніна.

Гайнрыху надта-ж хочацца есьці. — Пасілкавацца агароднінай, ці не? — мяркуе быўшы палонны. Але рукі самі сунуцца. Ужо ён сярод буйных зялёных радкоў, ужо рве. Але тут раптам чуе за сабою дзікі крык і адчувае цяжкі боль у плячох. Нямецкі селянін праколвае на сьмерць калішняга жаўнера-гаротніка, што ўжо амаль ступіў, пасьля шматлікіх гадоў, на парог роднае хаты.

І мы пэўныя, што выпадак з Альшэўкі, Альбрэхтаў і сумны фінал Гайнрыха Шлегеля таксама паўтараўся ў розных варыянтах і ў нязьлічоных колькасьцях у розных мясьцінах на родных землях тых нашых суседзяў, ад якіх наша Бацькаўшчына так шмат цярпела й сяньня церпіць.

А народ наш і надалей астаўся добры й занадта даверлівы, хоць як-жа шмат тая даброць да чужнікоў каштавала яму.

І ці-ж надарма тады асьцерагаў наш Нацыянальны Прарок:

Людзі чужыя! Хтось каліcь зьліча
Вашу нам шкоду:
Зьліча праступкі... к суду пакліча
Крыўда народу.

І мала тут у вадказ нашае старое й традыцыйнае:

Дай Божа!

а трэба дабавіць і зусім яснае й мэтанакіраванае:

І мы паможам!

**К. Акула**

# Бальшавіцкія „клопаты“...

(Заканчэньне з 1-й бач.)

Цяжка паверыць «Праўдзе», каб увесь выпуск інстытуту дабраахвотна выязджаў за Ўрал, і рабіў гэта дзеля таго, што там цяжэй і што да гэтага кліча партыя. У гэтым выпадку «Камуніст Беларусі» выявіўся больш шчырым. Ён нічога не гаворыць аб «дабраахвотнасьці», а толькі аб «накіроўваньні па камсамольскіх пуцёўках», аб «пасыланьні» беларускіх спэцыялістых за межы рэспублікі навучальнымі ўстановамі, гэта значыць аб **прымусовым перасяленьні.** І робіцца гэта, ня гледзячы на тое, што, як прызнае і «Праўда», для іх праца знайшлася-б і на бацькаўшчыне. Затое на прадпрыемствах Беларусі аж кішыць ад расейскіх спэцыялістых.

Як-жа пагадзіць гэтыя масавыя і бясcумлеву прымусовыя перасяленьні з партыйнымі цьверджаньнямі аб фармаваньні нацыянальнай інтэлігенцыі? З пададзенага вышэй прыкладу мы бачым, што бальшавіцкая практыка ськіваваная ў зусім адваротным кірунку да таго, што нам размалёўвае ейная прапаганда. Масава перасяляючы і перамешваючы маладую інтэлігенцыю розных нацыянальнасьцяў, адрываючы яе ад сваіх народаў, пазбаўляючы яе магчымасьці культываваць свае нацыянальныя традыцыі, паддаючы яе бязупыннаму ўзьдзеяньню расейскай і расейскамоўнай адміністрацыі, — партыйнае кіраўніцтва намагаецца дасягнуць свае запаветнае мэты — поўнае русыфікацыі ня толькі інтэлігенцыі, але ўсіх нерасейскіх народаў, каб, як нікому ўжо сяньня не сакрэт, на базе расейскае культуры й расейскага мэсіянізму стварыць адзіную савецкую нацыю — прататып сусьветнай «сацыялістычнай» нацыі.

А гэта сьветчыць не аб нацыянальнай свабодзе і раўнапраўнасьці народаў, не аб клопатах партыі пра выхаваньне кадраў нацыянальнай інтэлігенцыі, а аб найбольш гвалтоўных формах бальшавіцкага каляніялізму, які ў імя замацаваньня інтэгральнасьці свае імпэрыі гатовы ахвяраваць існаваньнем цэлых народаў, апрача народу «выбранага».

Аднак няхай Хрушчоў і супалка ня думаюць, што выдаючы гучныя дэклярацыі аб вызваленьні ўжо фактычна поўнасьцяй вызваленых народаў афрыканскага і азіяцкага кантынэнтаў, ім удасца прыхаваць агрэсыўны савецкі каляніялізм. Рух народаў сьвету да вызваленьня ад каляніялізму не абміне й бальшавіцкай імпэрыі.

**А. Залескі**

З нагоды 550 гадавіны Грунвальдзкай бітвы

# Дыпляматычны талент Вітаўта перад Грунвальдзкай бітвай

**(Працяг)**

### Крыжацкія спробы

Аб ваенных падрыхтоўках Ліцьвы гаворыць ліст маршалка Закону з 21 чэрв. 1409 (к. эп. Вт. 187) на аснове справаздачы Крыжака, нейкага Аттона, які быў у Коўне ды бачыўся зь Вітаўтам. У лісьце гаворыцца, што Рамбоўт у Жамойці мае 1 000 чалавек зь Ліцьвы, што Ягайла ў змове зь Вітаўтам рыхтуюць вайну супраць Крыжакоў, што Татары ўжо стаяць у Ліцьве і інш.

Крыжакі апрача сваіх ваенных падрыхтаваньняў усё стараюцца, каб адцягнуць Польшчу й Ягайлу ад Вітаўта й Ліцьвы. У гэтых мэтах яны пасылалі сваіх паслоў на перамовы зь Ягайлам (к. эп. Вт. 983). Яны прадставілі справу зрады Жамойці Вітаўтам ды прасілі, каб польскі кароль не памагаў Ліцьве ў выпадку канфлікту за Жамойць. Ягайла ня даў адказу зараз, але абяцаўся паразумецца з польскімі панамі і даць пазьней — на сьв. Аляксея.

Ня маючы яшчэ выразнай арыентацыі, якую пазыцыю займе Польшча ў канфлікце за Жамойць, Крыжакі толькі ціха рыхтаваліся да вайны, а на вонкі не праяўлялі варожых актаў.

А тымчасам літоўскія й жамойцкія злучэньні адабралі Крыжаком Фрэдэбург ды рыхтаваліся да новых штурмаў. Польшча не давала адказу. Знэрвованы в. Майстар націскаў на Ягайлу праз пасланцоў: «Дарагі каралю, замкі мае бярэ Ліцьва з загаду Вітаўта. То-ж мушу памагчы сваім абложаным. Дай адказ, ці будзеш памагаць Вітаўту?»

— На сьвятога Аляксея! — адказаў Ягайла, і то не адзін раз.

Абурэньне Вітаўта нарастала, калі ён даведаўся, што Крыжакі заарыштавалі транспарт збожжа ў Рагнеце і трымаюць ужо некалькі тыдняў. Ён напісаў зноў ліст да в. Майстра, у якім вылажыў свой жаль на Крыжакоў, што яны яму ня вераць, што задзяржалі збожжа, прызначанае для галадаючай Ліцьвы, што зачынілі граніцу з Жамойцяй, што ня выдаюць уцекачоў, зьняволеных літоўскіх купцоў і г. д., а у канцы прызнаўся: «Вось-жа ведайце, што за ўсе гэтыя крыўды і за новую зьнявагу, якую мне вы зрабілі, затрымоўваючы маё збожжа ў Рагнеце, я ў вадказ вызначыў у зямлі жамойцкай сваіх кашталянаў, ураднікаў і падкаморнікаў, а справа Жамойці ёсьць ад гэтага часу маёй справай» (К. эп. Вт. 986).

В. Майстар ня менш разьяраны пасьпешна рыхтаваўся да вайны, наймаючы войска на Захадзе, просячы Лівонію аб помачы й інш.

У Ліцьве ня меншыя ішлі падрыхтаваньні: з Полацку, Смаленску, Ноўгараду, Бранска, Старадубу, Кіева, Луцка, ад татарскіх саюзьнікаў цягнула войска на крыжацкае пагранічча.

### Становішча ў Польшчы

Польшча пакульшто не рабіла ваенных падрыхтаваньняў. Зьезд паноў у Лэнчыцы радзіў, які адказ даць Крыжаком. Зьезд высказаўся, што Польшча не падрыхтавана да вайны, ад якой трэба ўхіляцца. Зьезд выбраў архіяпіскапа Гнезьненскага, ваяводу Сандамерскага й кашталяна Каліскага на пасольства да Крыжакоў. 1 жніўня паслы зьехаліся ў Мальборгу. Крыжакі былі пераконаны, што Польшча й Ягайла адступяць ад Вітаўта. Паслы аднак зложылі перад в. Майстрам волю Ягайлы: што ён ёсьць спалучаны зь Вітаўтам вузламі крыві, а апрача гэтага мае ад яго запіс усяе Ліцьвы, як дар, па сваёй сьмерці. Таму ня можа згадзіцца, каб у будучай вайне пакінуць аднаго Вітаўта. Просіць дзеля таго Крыжакоў не пачынаць вайны, але вырашаць усе споры палюбоўна (К. эп. Вт. 986).

Да часу вырашэньня жамойцкай справы палюбоўным судом, польская дэлегацыя абяцалася напісаць Вітаўту, каб ён адклікаў сваіх кашталянаў і ўраднікаў з Жамойці.

Вялікі Майстар адказаў, што ён у прынцыпе згаджаецца, каб вырашаць спорныя справы палюбоўным судом, але справа Жамойці ёсьць выключнай справай крыжацкай, да якой Ліцьва ня мае ніякага права. Таму ён ня можа сьцярпець зрады Жамойцаў ды інтэрвэнцыі Ліцьвы, дык з усёй сілай ударыць на Жамойць.

Тады архіяпіскап Куроўскі адказаў: «перастань нас страшыць вайной жамойцка-літоўскай; калі ты пойдзеш на Жамойць, пакуль спорная справа ня будзе палюбоўна вырашана, як мы гаварылі ў сваім праекце, баюся, каб кароль не захацеў стаць на баку Вітаўта, у выніку чаго ты сам апынуўся-б у нявэўнасьці й страху за сваю зямлю».

Усьпенены ад злосьці Майстар сказаў: «дзякую табе, дастойны войча, што выказаў намеры караля. Цяпер я, насьцярожаны, свой удар ськірую не на канцавіны, але ў галаву, хутчэй у залюдненую, чымся пустую зямлю, хутчэй ў гарады й вёскі, чымся на пустыні й лясы, а вайну супроць Ліцьвы на Польшчу зьвярну». (К. эп. В. 987).

Вайна сталася няўхільнай.

### Істотны плян Крыжакоў

І вось у пагрозе в. Майстра зарысавалася цікавая думка, якая пярэчыць у многіх рэчах прадстаўленьню ролі Польшчы й Ягайлы ў Грунвальдзкай біцьве, створанае дасюлетняй гісторыягафіяй.

Пайменна паўстае думка, чаму в. Майстар так выпытваў аб становішчы Польшчы, а потым сказаў, што ўдар свой накіруе замест Ліцьвы — на Польшчу? Гэта ніякая пагроза дзеля запалоханьня Польшчы. Крыжакі добра ведалі, што Ліцьва ад двух гадоў рыхтуецца да вайны, сьцягвае сілы з Пскова, Ноўгараду ды навет Маскву мае за сабой (Прагаска, 134). Крыжацкія рапарты сьветчылі, што Ліцьва сканцэнтравала 2 000 каля Горадні ў кірунку на Інстэрбург, на Бебры стаіць 3000 Жамойцаў, на другім баку 4000 Ліцьвы пад камандаваньнем Манвіда. Сам Вітаўт з галоўнай сілай чакае ў Коўні, а 30 000 Татараў знаходзіцца ў рэзэрве. Такім чынам Крыжакі мелі выгаднейшую магчымасьць ударыць усёй сваёй сілай у Польшчу ды прымусіць яе адыйсьці ад саюзу зь Ліцьвой.

Выконваючы гэты плян, 6 жніўня 1409 г. в. Майстар абвесьціў Польшчы вайну. Каля 10 жніўня моцная крыжацкая армія стаяла пад Добрыням, які паў пад першым ударам Крыжакоў, а насельніцтва яго было перабітае. Наступна Крыжакі пайшлі на Рыпін, Баброўнікі, палячы і нішчачы ўсё па дарозе. Усе замкі палалі адзін за адным. 2 верасьня здалася Златорыя, пазьней Камень і Зэмпэльбург. Іншая армія крыжацкая пустошыла Мазуршчыну. Тут пасьпяшыла Ліцьва з Татарамі на помач Янушу Мазурскаму, урэзваючыся ў землі крыжацкія ў раёне Дзялдова, разбураючы гэты замак.

### Палякі не падрыхтаваныя

Ягайла маўчаў, перапалоханы сільным ударам Крыжакоў. Увіхаўся архіяпіскап Гнезьненскі, якім спосабам затушыць вайну. На прапановы архіяпіскапа аб міры, в. Майстар ставіць цяжкія ўмовы, як «вечны мір», непамаганьне Вітаўту й Ліцьве, здабытыя землі й замкі маюць астацца ў руках Крыжакоў аж да вырашэньня справы. Калі кароль Польшчы будзе ў вайне з Вугоршчынай, ня можа карыстацца літоўскай дапамогай, а таксама Ягайла мае адмовіцца ад помачы Вітаўту, калі апошні апынуўся-б у вайне з Вугоршчынай (К. эп. Вт., 988 і наст.).

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

**Лігі Вызваленьня Народаў СССР**

**(Мюнхэн, 27-га кастрычніка — 2-га лістапада 1960)**

Заслухаўшы даклады выканальных органаў, Ліга Вызваленьня Народаў СССР выражае свае пажаданьні, якія павінны зьяўляцца адначасна й наказам для будучага кіраўніцтва:

1. Імпэратыўна дыктуецца перажываным мамэнтам, каб арганізацыя канфэрэнцыі аб «савецкім каляніялізьме», запраектаваная Лігай яшчэ чатыры гады таму назад, атрымала ў тэрміновым парадку сваё ажыцьцяўленьне.

2. Створаная ў пачатку сёлетняга году «Кантактная камісія», якая аказалася зь першых-жа дзён свайго існаваньня спутанай перашкодамі структурнага й іншага характару, павінна, напасьледак, перайсьці штучную бар'еру, высунутую перад ею, каб ейная праца сталася больш эфэктыўнай.

3. Канстатуючы, што праца нашых органаў вельмі тармозіцца адсутнасьцяй тэхнічнага апарату, рэкамэндуецца прыняць усе меры дзеля арганізацыі сакратарыяту Лігі.

У выніку ўсяго гэтага, Канфэрэнцыя, прызнаючы, што калі магчымасьці, якімі распараджалася й карысталася Ліга да сяньняшняга дня, былі недастаковымі, дык на цяперашнім этапе ейнае дзейнасьці яны зьяўляюцца ў поўнай неадпаведнасьці з патрэбамі мамэнту. Дзеля гэтага настойліва рэкамэндуецца максімальна расшырыць (у межах сілаў і магчымасьцяў) базу свайго дзеяньня.

Канфэрэнцыя напамінае, што на шляху рэалізацыі асьпірацыяў нашых народаў, накіраваных на адбудаваньне сваіх незалежных дзяржаваў, мы няўхільна будзем кіравацца галоўнымі асновамі канстытуцыі Лігі на базе дэмакратыі і ў поўнай згодзе з прынцыпамі, што ляглі ў васнову ліпеньскіх актаў (Рэзалюцыя Кангрэсу ЗША, санкцыянаваная дэкрэтам Прэзыдэнта аб устанаўленьні «Тыдня Паняволеных Народаў»).

**Прэзыдыюм Канфэрэнцыі**

# IX-ая Канфэрэнцыя „Лігі...

**(Заканчэньне з 2-ой бач.)**

станьня гэтае Камісіі, якая згодна ўмовы з Амэрыканскім Камітэтам мела-б рэгуляваць узаемадачыненьні Лігі з Амэрыканскім Камітэтам на базе саюзьнікаў і партнэраў, зазначыў аднак таксама, што на перашкодзе працы Камісіі стаяла герархічная структура Амэрыканскага Камітэту. Пайменна, тры дэлегаты Амэрыканскага Камітэту ў Камісіі ня мелі патрэбных паўнамоцтваў для вырашэньня праблемаў на месцы, дзе ўзгодненыя пытаньні абодвымі бакамі заставаліся павіслымі ў паветры, бо пасыланьне імі для апрабаты сваім зьверхнікам займала доўгі час, часамі па некалькі месяцаў без адказу.

Сп. Цэнцадзэ дзеля гэтага запрапанаваў Канфэрэнцыі паставіць умову Амэрыканскаму Камітэту зьмяніць мэтад працы ў ягонай структуральнай сыстэме і даць паўнамоцтвы сваім прадстаўніком у Кантактнай Камісіі разьвязваць усе пытаньні па лініі супрацоўніцтва зь Лігай на месцы.

Сп. інж. С. Даўгаль падаў інфармацыю аб выдаваньні журналу Лігі „Problems of the Peoples of the USSR".

### Дыскусіі

Што справаздачы выканальных органаў Лігі былі ўспрынятыя Канфэрэнцыяй як пазытыўна выкананыя ўзложаныя на іх абавязкі, найлепей сьветчыць тое, што ніводзін з дэлегатаў ня выступіў з нэгатыўнай крытыкай, калі ня лічыць выступленьня аднаго дэлегата ад Туркестанцаў, які амаль вылучна крытыкаваў недастатковую помач Прэзыдыюму з боку сяброў Лігі — нацыянальных цэнтраў, у тым ліку й свайго Туркестанскага нацыянальнага цэнтру.

Прэзыдыюм спадзяваўся найбольшай крытыкі з боку аднэй групы ўкраінскай дэлегацыі, якая гуртуецца каля газэты «Українські Вісті» і якая, як ведама, на працягу апошняга году вельмі шмат чаго закідала Прэзыдыюму Лігі. Аднак гэтая частка ўкраінскай дэлегацыі ў даданым выпадку зусім не забірала слова.

Уся дыскусія сканцэнтравалася на пытаньнях, што павінен рабіць, якія заданьні праводзіць у жыцьцё будучы выканальны орган, г. зн. будучы прэзыдыюм. Тон такому кірунку дыскусіі надаў прэм'ер выканальнага органу УНРады сп. М. Лівіцкі, які, першым забіраючы слова, зазначыў, што будзе гаварыць толькі аб будучых заданьнях Лігі. У такім кірунку выступалі і ўсе іншыя прамоўцы.

Дзеля гэтага атмасфэра падчас цэлага дня дыскусіяў мела вельмі рэчовы, сардэчны і пры поўным узаемным зразуменьні характар. Было прынята рад важных пастановаў, зь якіх, як адна з найболей актуальных, гэта выданьне дзьвюх брашураў (у ангельскай і францускай мовах), як матарыялаў-дакумэнтаў аб палажэньні нашых народаў і арганізацыя канфэрэнцыі Лігі — гэтым разам у ЗША — на тэму савецкага каляніялізму.

### Выбары Прэзыдыюму Лігі

Выбары Прэзыдыюму ў гэтым годзе прайшлі вельмі хутка (на працягу поўгадзіны часу, а ў мінулым годзе трывалі 8 гадзін). Прэзыдэнт Абрамчык, згаджаючыся на выстаўленьне ягонай кандыдатуры на старшыню Лігі, выказаў, аднак, пажаданьне, каб Прэзыдыюм быў пашыраны (дагэтуль складаўся з трох асобаў). У выніку абмены думкамі, Прэзыдыюм быў пашыраны да 5-ёх асобаў. Із старога складу Прэзыдыюму былі перавыбраныя: прэз. М. Абрамчык — старшыня, Алі Хан Кантэмір (Паўночны Каўказец) — віцэ-старшыня, Н. Цэнцадзэ (Грузін) — сябра Прэзыдыюму, Сп. Самульян (Армянін) — сябра прэзыдыюму. Сябрам Прэзыдыюму быў запрапанаваны М. Лівіцкі (Украінец), які Канфэрэнцыяй быў як і ўсе папярэднія, аднагалосна акцэптаваны.

Сп. М. Лівіцкі, аднак, выходзячы з таго, што ў блізкім часе мае адбыцца сэсія УНРады, на якой пры фармаваньні новага выканальнага органу можа так стацца, што ён далей не застанецца прэм'ерам, запрапанаваў Канфэрэнцыі ўважаць прапанову ўвайсьці ў склад Прэзыдыюму Лігі Украінцамі прынятую, але бяз вызначэньня сяньня прозьвішча ўкраінскага прадстаўніка, і даць права УНРадзе пазьней самой яго вызначыць. З гэтым Канфэрэнцыя й пагадзілася.

Такім чынам Прэзыдыюм Лігі цяпер складаецца з 5-ёх сяброў — з вышэй названых і пятага, якога УНРада мае вызначыць сама.

**К. Б.**

# ЗАКЛІК

**ЛІГІ ВЫЗВАЛЕНЬНЯ НАРОДАЎ СССР**

Ад імя паняволеных народаў у межах Савецкага Саюзу, мы зварочваемся да вас, краінаў Афрыкі й Азіі, якія здабылі свабоду й нацыянальную незалежнасьць.

Валадары Крамля прапануюць вам «дапамогу й падтрымку» «ў розных формах». Мы хацелі-б тут, на прыкладзе паняволеных народаў, якія мы прадстаўляем, паказаць вам, якое запраўднае значэньне, якую небясьпеку затойваюць у сабе гэтыя «дары данайцаў».

Расейская царская імпэрыя «паняволівала, — паводля Леніна, — большую колькасьць народаў, чымся якая-небудзь іншая краіна». У выніку падзеяў 1914—1918 гадоў, гэтыя паняволеныя народы аднавілі сваю незалежнасьць і нацыянальную сувэрэннасьць.

У той час Азэрбайджан, Армэнія, Балтыцкія краіны, Беларусь, Грузія, Казакі, мусульманскія народы Сярэдняй Азіі (Узбэкі, Туркмены, Таджыкі, Кіргізы й Казахі), таксама як Татара-Башкіры з Паволжа й Уралу, Украіна й Фінляндыя сталіся тым, чым яны павінны былі-б быць: незалежнымі й сувэрэннымі дзяржавамі.

Рэагуючы голай сілай супраць гэтага гістарычнага руху, Крэмль разгарнуў супраць гэтых народаў акцыю — мясцовую ці большага засягу ў залежнасьці ад абставінаў.

Прыкладам у 1920 годзе Азэрбайджан і Армэнія былі акупаваныя збройнай сілай, ня гледзячы на тое, што гэта былі незалежныя дзяржавы. У 1921 годзе, Чырвоная армія захоплівае Грузінскую Дэмакратычную Рэспубліку, якая была прызнаная шматлікімі вялікімі дзяржавамі, і ня гледзячы на тое, што паміж бальшавікамі й Грузіяй год таму была падпісаная адмысловая ўмова. Такім чынам Крэмль пачаў сэрыю 45 умоваў, падпісаных і сарваных ім самым. Украіна й Беларусь пасьля здабыцьця незалежнасьці сталіся таксама аб'ектам збройнай інтэрвэнцыі й прымусовай саветызацыі.

Брутальная сіла была таксама сяродкам, які ўжыў Крэмль у дачыненьні да народаў Сярэдняй Азіі. Тут, аднак, ён дзеіў інакш з прычыны асаблівых умоваў — прысутнасьці масаў расейскіх пасяленцаў, насаджаных тут царскім рэжымам. Бальшавікі спалучалі тут збройную акцыю Чырвонай арміі з выкарыстоўваньнем узброеных пасяленцаў, нацкаваных на мясцовае мусульманскае насельніцтва.

На тэрыторыі мусульманскіх народаў, як і на Беларусі і Ўкраіне ці на тэрыторыі Каўказу, за збройнай акупацыяй прыйшоў бесьперапынны перасьлед акупаванага насельніцтва; крывавая сыстэма тэрору ўстанавілася тут на доўгія гады. У выніку, з мамэнтам, калі РСФСР сталася гэтак званым Саюзам Сацыялістычных Рэспублікаў, Крэмль адбудаваў былую каляніяльнаю царскую імпэрыю. Трэба падкрэсліць, што народы, паняволеныя ў СССР, зьяўляюцца ў поўнай каляніяльнай залежнасьці ад маскоўскай дыктатуры.

У савецкай імпэрыі пануе поўны прыгнёт у нацыянальнай, сацыяльнай і іншых галінах. Найбольш жудасным прыкладам гэтага зьяўляецца народазабойства. Цэлыя народнасьці былі адарваныя ад свае радзімае глебы й асяродзьдзя, і высланыя за тысячы кілямэтраў. Гэтак званыя аўтаномныя рэспублікі, створаныя тым-жа савецкім урадам, былі зьнішчаныя на працягу некалькіх дзён. У лютым 1944 году Чэчэна-Інгуская «Аўтаномная Рэспубліка» — 70 тысяч асобаў — была сьцёртая з мапы: насельніцтва было вывезенае на працягу некалькіх дзён. Гэткі-ж лёс сустрэў Крымскіх Татараў. У 1947 годзе Балкарцы былі вынішчаныя, як народ.

У эканамічным пляне Крэмль сыстэматычна абрабоўвае калянізаваныя народы. Натуральныя рэсурсы й багацьці саюзных рэспублікаў — заміж таго, каб служыць матарыяльнай базай іхнага дабрабыту — становяцца прыладамі паняволеньня гэтых народаў, служачы экспансіяністычным інтарэсам найбольшай каляніяльнай імпэрыі сьвету. Гэтае сталае абяскрываўленьне калянізаваных краінаў і ўзбагачвае акупанта, што дазваляе савецкай дыктатуры павялічваць да гіганцкіх памераў свой тэхнічна-ваенны патэнцыял.

Гэта відавочны факт. Тут трэба прыгадаць галоўны лёзунг савецкай эканомікі, які існуе ад часоў Леніна: «Дагнаць і перагнаць капіталістычныя краіны» — пайменна Задзіночаныя Штаты Амэрыкі.

І вось на працягу 40 год жыцьцёвая ўзроўня жыхароў СССР усё яшчэ застаецца такой, як у слабаразьвітых краінах — аднэй з найніжэйшых у Эўропе. Затое цяжкая індустрыя, якая прадукуе ваенны матарыял — прыладу паняволеньня й зьнішчэньня, зрабіла непрапарцыянальны прагрэс. Інакш кажучы, усе багацьці, адабраныя ад паняволеных людзей і народаў, былі пераробленыя ў прылады вонкавай экспансіі і нутраной кансалідацыі дыктатуры. Вось чаму рэсурсы, якія СССР плянуе вылучыць быццам-бы на карысьць новых незалежных дзяржаваў Афрыкі й Азіі, зьяўляюцца фактычна дадатковым цяжарам, накінутым калянізаваным народам савецкай імпэрыі. Уся матарыяльная дапамога, якую будзе вам даваць Крэмль, зьяўляецца фактычна вынікам каляніяльнага паняволеньня, якое ён практыкуе, і адначасова зробіць яшчэ цяжэйшым ярмо, пад якім гнуцца паняволеныя народы гэтай імпэрыі.

З другога боку, усе крокі, якія робіць СССР у дачыненьні да Афрыкі й Азіі, маюць зусім азначаную мэту. Характэрная рыса савецкага імпэрыялізму — пашырацца як мага далей усімі сяродкамі. Савецкая імпэрыя мусіць або пашыраць сваё панаваньне, або зьнікнуць.

Дзеля таго, ад таго мамэнту, калі Крэмль пачаў цікавіцца вашымі народамі, іхнае існаваньне знаходзіцца пад пагрозай. Пад крывадушным прыкрыцьцём «поўнага вызваленьня» афрыканска-азіяцкіх народаў, ён намагаецца ператварыць гэтыя народы спачатку ў свае сатэліты пры дапамозе эканамічнага падпарадкаваньня, а пазьней, у выпадку патрэбы, і ўжыцьцём збройнай сілы.

Падаручкі СССР — пагрозьлівыя для тых, хто іх атрымоўвае — ужо акрываўленыя цярпеньнем народаў, ад імя якіх яны даюцца. Незабываймася пра страшэннае каляніяльнае ярмо, накладзенае Крэмлём на сваіх паняволеных, пра гэты каляніялізм новага тыпу, перад якім папераджаў у 1955 годзе старшыня Бандунгскай канфэрэнцыі.

Ніколі не забываймася, што ўсякая дапамога, якая выходзіць з падсавецкай тэрыторыі, базуецца на духовым і фізычным паняволеньні, на муках людзей і народаў; усё, чым распараджаюцца крамлёўскія валадары, было вырванае зь цела укрыжаваных народаў. Падарункі СССР прасякнутыя крывёй і сьлязьмі; будучы заплямленымі ў сваёй аснове, яны забруджаныя тымі намерамі, зь якімі яны даюцца.

Народы, якія церпяць у каляніяльным ярме Савецкага Саюзу, заклікаюць незалежныя народы ўсёй зямлі заўсёды памятаць, што тыя цярпеньні, якія пераносяць нашы народы, гэта той лёс, які рыхтуе Крэмль для вольнага сьвету.

Прыймаць савецкую дапамогу, трапіць у пастку Крамля — гэта адначасова ўзмацняць тэрор, ахвярамі якога зьяўляюцца нашыя народы, і выстаўляць вашы народы на гэткую-ж небясьпеку.

**Ліга Вызваленьня Народаў СССР**

---

Япіскап згадзіўся на прапановы Крыжакоў за выключэньнем апошняга пункту, што тычыўся Вугоршчыны, ды запрапанаваў з свайго боку перамовы зь Ягайлам у Торуні, якія аднак не адбыліся з прычыны незьяўленьня польскага боку.

Палякі проста хацелі выйграць на часе. Ягайла даў тайны загад аб ваенным паходзе й на 9 верасьня ў Вольбар мелі зысьціся польскія сілы. 6 дзён пазьней польская армія была ўжо пад Быдгашчам. Калі 30 верасьня 1409 г. Ягайла здабыў гэты горад, прыбылі да Ягайлы паслы ад Вацлава, імпэратара рымскага і чэскага з прапановай спыніць ваенныя дзеяньні да 24 чэрвеня 1410 г., чакаючы на арбітраж Вацлава ў крыжацка-польскім канфлікце, прытым прысуд меў быць абвешчаны ўжо 9 лютага 1410 г.

Пасьля доўгіх торгаў Ягайла й польскія паны згадзіліся разам з Крыжакамі на перамір'е, захоўваючы «статус кво», учыненае вайной. Ягайла ў васнаўным пакінуў Вітаўта.

### Дзейнасьць Вітаўта

Што ў гэтым трывожным часе робіць Вітаўт? Ён займаецца абаронай Ліцьвы й Жамойці. Вось распаўсюдзіў ён у Заходняй Эўропе адкрыты ліст у справе жамойцкай. У гэтым лісьце так ён выкладаў усю гісторыю канфлікту з Крыжакамі:

«Уладары й гаспадары хрысьціянскія! Хоць справы мае з Законам уцьверджаны вечным мірам, то аднак мір гэты не карыстаецца з боку Крыжакоў належнай справядлівасьцяй. Небясьпечны ўдар, які рыхтавалі яны на нас даўно, ужо ўязьвіў у наша сэрца. А Бог сьветкай, якія яны ад мяне мелі прыклады прыязьні, якія довады помачы, паказваючыя заўсёды ім маю любоў. Часта засланяў я іх ад магутных Пскаўлянаў ды ішоў з дапамогай ім, каб заўладаць няверными Жамойцамі. А як толькі Жамойцы паўсталі супраць Закону, я даваў спосабы, як іх дзяржаць у паслухмянасьці; а яны (Крыжакі) нас дзеля гэтага мелі ў падазрэньні ды ў часе трываньня нашага вечнага міру пачалі пад намі капаць воўчыя ямы, сеяць звады і непрыязьнь між мной а маім братам каралём Польшчы, катораму ягоныя замкі, Дрэздэнка й Санток, забралі. А калі іх мы заклікалі да апамятаньня, то яны выслалі да нас у пасольстве комтура, каторы — з болем пра гэта кажам — асьмеліўся нас назваць іменем зрадніка. Нат калі мы зьвярнуліся да Закону па належную нам сатысфакцыю ды пакараньне комтура, не зрабіў ён гэтага, хоць павінен быў зрабіць. Полымя ненавісьці ахапіла іх сэрцы. Забаранілі нам добрых купецкіх зносінаў зь іх землямі, а беглых і палонных ня выдавалі нам, нарушаючы словы сьвятой прысягі. А ці можа быць большая прычына нашай скаргі, калі яны сьведама, ведаючы які голад у нас пануе, ня толькі што забаранілі вываз і продаж збожжа да нашага краю, але навет адважыліся задзержаць нашае собскае збожжа, перасланае польскім каралём...

Гэта яны, каторыя перад вамі, гаспадары хрысьціянскія вінавацяць нас і караля Польшчы, быццам мы мала зрабілі ў карысьць каталіцкай веры... Брахлівымі вуснамі й здрадніцкімі лістамі шыраць на нас хлусьню, а калі-б чэснасьць мелі ў сэрцы, а справядлівасьць і гонар шанавалі, запраўды пабачылі-б і пазналі, якая ганьба на іх самых спадае дзеля іх скаргаў. Нам самым ня выпадае падробна вылічаць харамы Божыя, якія ўсюды мы пабудавалі; ува ўсіх землях сьветчаць яны аб росьце сьвятой веры. Я адклікаюся да вашага сумленьня, гаспадары хрысьціянскія, што калі-б вы пачулі з нашага боку голас нараканьня на Крыжакоў, даведаліся-б многіх рэчаў аб іх бязбожных думках і праступных чынах. Гэта яны лічаць нам новахрышчаным за віну, нам, каторыя толькі 24 гады стаім пры веры Хрыстусавай, што мы не апраўдалі яе ўва ўсіх землях пабудовай сьвятыняў; а яны, каторыя больш за 200 гадоў дзержаць прускую зямлю, чамуж не апраўдываюцца, чаму-ж не адказываюць, што іх Прусы па сяньня ня выракліся паганскіх абрадаў? Хай скажуць, каторых то Жамойцаў яны ахрысьцілі, хоць пяць гадоў ужо дзержаць іх зямлю. Чаму яны маўчаць і апраўдываюць сваіх блудоў? Былінку бачаць у нашых вачах, а ў сваіх ня хочуць бачыць бярвеньня. Запраўды я вам кажу, гутарка іх поўная маны й круцельства. Калі пра сябе добра гавораць, робяць гэта як сафістыя, што імкнуцца пад прыкрыцьцём добрых маралаў да дрэнных дзеяньняў; а калі дрэнна аб некім гавораць, робяць гэта дзеля сваёй абароны, собскія злачынствы прыпісваючы іншым. Усё іх жыцьцё, усе іх імкненьні накіраваны, каб, думаючы аб супакоі, сеяць ненавісьць, пад выглядам праўды абманываць блізьніх, захоўваючы маску прыязьні, затручваць сваіх прыяцеляў ядам ненавісьці, а калі прымаюць постаць галубка, кусаюць блізьняга, як ядавітая гадзюка» (Прагаска, 141-142).

Адкрыты ліст канчае Вітаўт сьцьверджаньнем, што ў мэтах самаабароны ды адказваючы той самай зброяй на крыжацкія варожасьці, ён узяў у вабарону Жамойцаў, каб змагацца з праступным Законам. Пакульшто ня выцягаў ён мяча з похвы, але калі даведаўся, што Крыжакі абвесьцілі Польшчы вайну й забралі Добрынь, то ён падцягнуў свае войскі на прускую граніцу. Жамойцкія замкі самі здаліся, а жамойцкі Солтыс, уцякаючы, сам спаліў замак Дубісу.

Апрача прапаганды Вітаўт поўнасьцю пераняў Жамойць. Тысячы нямецкіх каляністых, многа Крыжакоў перавезена ў Ліцьву й паселена ў Віцябшчыне й Смаленшчыне, Ноўгарадзе, Кіеўшчыне ды Татаршчыне. Сам Вітаўт Нёманскай флятыляй даплыў аж да Клайпэды, але замку ня браў. Усюды рабіў падрыхтаваньні да спадзяванай атакі Крыжакоў; Сьвідрыгайлу, якога прывялі яму Татары, казаў пільнаваць, каб не перабег да Закону. У гэтым часе атрымаў ён вестку аб польскім перамір'і. Хутка сам паехаў у галоўную гасподу Ягайлы на нарады. Там згадзіўся таксама на перамір'е, ды, узмоцніўшы Жамойць, даў загад, каб перамір'е не парушаць. У міжчасе Сьвідрыгайла ўсё-ж такі навязаў лучнасьць з Крыжакамі й у Сьвецы падпісаў зь імі ўмову, на аснове якой Крыжакі прыраклі дапамагчы яму атрымаць ягоны удзел. Апрача гэтага далі яму вольны побыт ува ўсіх сваіх землях і замках (к. эп. Вт, 202-203). Вітаўт яго аднак перахапіў і скаваў у вакові. За радай Ягайлы было праведзена сьледзтва ў гэтай справе ды былі выкрытыя віноўныя іншыя князі й баяры. Вітаўт казаў іх пакараць сьмерцяй за зраду. Сьвідрыгайлу ўкінуў у цямніцу.

Крыжакі цяпер поўнасьцю зразумелі, што ўся дыплямацыя скончаная. Набліжаецца час сутыку збройнага змаганьня. І перамір'е сталася ўзаемнымі выперадкамі ў гонцы да вайны, Грундвальдзкая бітва якой зойме галоўнае месца.

Вітаўт пасьлядоўна йшоў да намечанай мэты. Жамойць поўнасьцю знаходзілася ў ягоных руках. Доступ да мора Нёманам быў ачышчаны ды разарваны сутык нямецкіх законаў. Цяпер пагром Крыжакоў паложыць асновы да будучага заўладаньня Ліцьвой, Лівоніяй, Псковам і Ноўгарадам — так зарысоўвалася пэрспэктыва ў палітычных разважаньнях Вітаўта.

Чаму Вітаўт даў магчымасьць падрыхтаваньня да Грунвальдзкай бітвы Крыжаком, сваім найбольшым ворагам? Адказ на гэта просты: Польшча абсалютна ня была падрыхтаваная да вайны, а ён адзін не хацеў рызыкаваць змаганьня ды несьці вялікія ахвяры. Але гэта ня значыць, што ў Грунвальдзкай біцьве Ліцьва й Вітаўт адыгравалі нейкую другарадную ролю, як гэта прадставіў Длугаш і польская гісторыяграфія. Як мы бачылі з падрыхтаваўчага пэрыяду — мозгам усяе палітыкі й стратэгіі быў не Ягайла, а Вітаўт, запраўды гэніяльны правадыр Ліцьвы ды заснавальнік яе магутнасьці.

(Канец)

**Мікола Волацiч**

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

## ЛІГІ ВЫЗВАЛЕНЬНЯ НАРОДАЎ СССР АБ АГУЛЬНЫМ ПАЛАЖЭНЬНІ Ў СЬВЕЦЕ

Канфэрэнцыя Лігі Вызваленьня Народаў СССР, адбытая 27-га кастрычніка — 2-га лістапада 1960 году ў Мюнхэне, пасьля абмены думкамі аб агульным палажэньні ў сьвеце, сьцьвярджае:

I. Сьвет знаходзіцца ў стане пэрманэнтнага крызісу. Ідэю мірнага суіснаваньня Масква ператварыла ў практыку таталітарнай халоднай вайны супраць свабоднага дэмакратычнага сьвету. Г. зв. «ключавыя праблемы» (разьзбраеньне, Бэрлін, Блізкі й Далёкі Ўсход і г. п.) астаюцца неразьвязанымі й да іх прыбаўляюцца яшчэ новыя. Канфэрэнцыі на «ніжэйшай» і «вышэйшай» узроўні сабатуюцца або зрываюцца тэйжа Масквой.

II. Трэба адцеміць, што перажываны людзтвам мамэнт у значнай меры характарызуецца паяўленьнем на міжнароднай арэне новых дзяржаўных фармацыяў, узьніклых у выніку шырокай эманцыпацыі каляніяльных народаў, якая, зразумела, не адбілася на неабнятай савецкай каляніяльнай імпэрыі. Удзельнае значаньне гэтага новага фактару з кажным днём будзе ўзрастаць. І апошняя, яшчэ цяпер праходзячая, сэсія Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў паказала, **якую ролю гэты новы сьвет будзе іграць у палітыцы, вызначаючай узаемадачыненьне між свабодным Захадам і таталітарнай дыктатурай Крамля.**

III. Узьнікае такім чынам новая праблема, тое або іншае разьвязаньне якой адаб'ецца на далейшым разьвіцьці міжнародных дачыненьняў: у залежнасьці ад таго, куды павернецца тварам **гэ**ты новы сьвет, які толькі нядаўна выйшаў на шырокі шлях свабоды й дзяржаўнай незалежнасьці, які кірунак, якую арыентацыю прыймуць гэтыя народы, зарысуецца й вызначыцца, быць можа, **сур'ёзна й надоўга, зьмена ў узаемадачыненьнях сілаў у сьвеце.**

IV. Савецкая дэлегацыя ў ЗН папрабавала ў максімальнай ступені выкарыстаць створанае новае палажэньне: вярхоўнае кіраўніцтва каляніяльнай камуністычнай імпэрыі, у васобе Хрушчова, цынічна выступае ў ролі змагара й абароньніка каляніяльных і капіталістычным імпэрыялізмам прыгнечаных народаў, бессаромна замоўчваючы аб тым, што дэкалянізацыя на кантынэнтах Азіі й Афрыкі падыходзіць да канца, тады як дзесяткі народаў Савецкага Саюзу, як і цэлай савецкай імпэрыі нагагул стогнуць пад цяжкім каляніяльным ярмом. Хрушчоў пастараўся з прывыклым яму цынізмам і грубасьцяй, уласьцівай барбару, уважаючы сябе непераможным, імпанаваць і заваёўваць сэрцы няпрывычных да падступнага макіявэлізму народаў. Працягваючы руку «бескарысьлівай помачы» афра-азіяцкім народам у іхным станаўленьні й кансалідацыі, ён думае толькі аб тым, каб на наступны-ж дзень даць гэтай помачы завяршэньне ў палітычным пляне шляхам пасьлядоўнага ўключэньня іх у савецкую арбіту.

У сувязі з гэтым перад свабодным сьветам вырастае вялізарнае заданьне — аказаць арганізаваную помач (палітычна неабумоўленую) мала разьвітым краінам стаць на собскія ногі. Гэта, вялізарная паводля задумы, акцыя павінна стацца ягоным сьвятым абавязкам і амбіцыяй, якая, зьяўляючыся рэпарацыяй несправядлівасьці мінулага, прыродным спосабам накіруе ўспомненыя народы ў вагульны сьветавы фронт свабоды, міру й дэмакратыі.

Хрушчова, відаць, радасна хвалюе прывід: запаветы, напісаныя на скрыжалях Леніна, «збываюцца». І вось ён ужо зьбіраецца на пляцдарме афрыканскага кантынэнту завязаць рашучую схватку з Захадам. Людзтва, як быццам, падыходзіць ужо к апошняй мяжы й маскоўскаму дыктатару мроіцца ўжо на паўдзённых подступах да Эўропы адзіная непадзельная савецкая плянэта.

V. Настаў час, калі ў ворага-узурпатара, вырваўшага ў дэмакратыі зброю (сьцяг антыкаляніялізму й вызваленьня паняволеных народаў), заходняя дэмакратыя павінна адабраць яго й з усей сілай адвярнуць супраць таго, хто трымае ў каляніяльным ціску дзесяткі народаў, пазбаўленых ім сілай нацыянальнай свабоды й дзяржаўнай незалежнасьці.

Трэба цьвёрда помніць, што **гэтыя паняволеныя народы зьяўляюцца патэнцыяльна магутным фактарам,** які пры выразным на тым баку зялезнай заслоны вызвольваньні сілаў свабоды сярод усіх народаў імпэрыі супраць **савецкай тыраніі зьяўляюцца незаменнымі саюзьнікамі на шляху вызваленьня сьвету** ад навіслага над ім маскоўскага кашмару. У гэтым нутраным працэсе, які разьвіваецца із стыхійнай няўхільнасьцяй, **ім суджана, у канчальным выніку, згуляць вырашальную ролю ў гэтым змаганьні.**

Правільна ўзяўшы на ўвагу вышэй паказаныя фактары міжнароднага й нутранага імпэрскага характару, ні на мінуту не забываючыся на фактар часу, — свабодны сэктар сьвету павінен, напасьледак, праявіць сваю цьвёрдую становучасьць адказваць на ўдары, у першую чаргу на фроньце псыхалягічнага змаганьня, якім дагэтуль амаль манапольна карысталася маскоўская дыктатура й на якім яна, ня сустракаючы супраціву, дасягнула нямала перамогаў.

Мы перакананыя, што на фроньце псыхалягічнага змаганьня вышэй названая зброя, умела й мэтадычна накіраваная супраць савецкага каляніялізму, нанясе сьмяротны ўдар праціўніку й зьявіцца паваротным пунктам у вызвольным змаганьні.

Палітычная стратэгія й тактыка ў гэтым змаганьні павінна вызначыць ня толькі лінію супраціву, але й мэтады й лінію наступу, на якой вораг будзе ня толькі затрыманы, але й змушаны адступаць.

**Лёд імабілізму й незразумелай нестаноўчасьці, навіслы й да сяньня над заходнім сьветам, павінен крануцца, адкрыўшы шырокае поле вызвольнай творчай ініцыятыве.**

**Неабходна вярнуць народам па абодвых баках зялезнае заслоны веру й пэўнасьць у канчальную перамогу свабоды над нявольніцтвам,** якая абапіраецца на вялізарным патэнцыяле эканамічным, тэхнічным і культурным вольнага сьвету. Трэба пры гэтым умацаваць перакананьне, што мы знаходзімся на раздарожжы перад драматычнай дылемай: або змусіць ворага людзтва да адступленьня на ўсей лініі, што павінна прывесьці да развалу дыктатуры, да дэкалянізацыі апошняй каляніяльнай імпэрыі ў сьвеце, да аднаўленьня свабоды й незалежнасьці паняволеных народаў, якія сталіся ахвярай савецкай ваеннай агрэсіі, або пагадзіцца зь лёсам. Трэйцяга выхаду няма! Тыя нямногія із г. зв. прагрэсыўнай мяккацелай інтэлігенцыі (аб'ектыўна і ў запраўднасьці рэакцыйнай), якія дабрадушна лятуцяць аб эвалюцыі бальшавіцкай таталітарнай дыктатуры, лёгка забываюць лекцыі й законы гісторыі, што дыктатура ломіцца, а не эвалюцыянуе.

Ці зможа сучаснае пакаленьне годна выканаць узложаную на яго цяжкую гістарычную місію? — Ад гэтага будзе залежыць збаўленьне ад навіслай над культурным чалавецтвам зь ягонай цывілізацыяй сьмяротнай небясьпекі; больш гэтага, на паказаным шляху, верыцца нам, будзе адхіленая атамная катастрофа й пагібель людзкога роду.

**Прэзыдыюм Канфэрэнцыі**

## СПРАВАЗДАЧА

На падпісны ліст № 3, выдадзены **д-ру** Ст. Станкевічу, сярод Беларусаў гораду Лёндан (Канада) сабрана на Выдавецкі Фонд Выдавецтва «Бацькаўшчына» 35 (трыццаць пяць) канадыйскіх даляраў. Усім ахвярадаўцам шчырае беларускае дзякуй.

**Выдавецтва «Бацькаўшчына»**

# Зь беларускага жыцьця

## 10-ЫЯ ЎГОДКІ АДДЗЕЛУ БАЗА С. РЫВЭР — Н. БРАНСЬВІК

Сёлета ўлетку мінула 10 год ад заснаваньня Аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Саўт Рывэры. З гэтай нагоды, у нядзелю 30 кастрычніка 1960 году Аддзел наладзіў Урачыстае Сьвяткаваньне.

А 10 гадз. раніцы адбылася Ўрачыстая Багаслужба ў царкве Жыровіцкай Божай Маці ў Нью Брансьвіку, якую адслужыў мітр. пратаярэй а. Сьцяпан Войтэнка. На багаслужбе было шмат людзей, як сваіх, так і гасьцей.

А 3-яй гадз. папаўдні, у залі Шака ў Саўт Рывэры пачалася Ўрачыстая Акадэмія. Пасьля адыграньня Амэрыканскага Гімну, уступным словам у ангельскай і беларускай мовах, адчыніў Акадэмію старшыня Аддзелу сп. С. Гутырчык. У дакладзе аб 10-х угодках заснаваньня Аддзелу Ч. Ханяўка закрануў гісторыю беларускай эміграцыі ў ЗША і ў штаце Нью Джэрсы, спэцыяльна спыняючыся на прычынах позьняга паўстаньня першых беларускіх эміграцыйных арганізацыяў у ЗША, паміма масавай беларускай эміграцыі сюды ў пачатку XX стагодзьдзя. Прычынамі гэтымі былі: нацыянальная нясьведамасьць эмігрантаў у пары з адсутнасьцю сваіх царкоўных арганізацыяў, а з другога боку амэрыканскае памяшаньне паняцьцяў дзяржаўнай прыналежнасьці. Нступна дакладчык коратка адзначыў важнейшыя падзеі ў жыцьці Аддзелу, як зарганізаваньне парахвіі БАПЦ і купля царкоўнай зямлі. Дакладчык падчыркнуў самаахвярную працу аднаго з закладчыкаў Аддзелу, даўгалетняга ягонага старшыню, арганізатара і кіраўніка Беларускае Школы, заслужанага беларускага дзеяча сп. Філярэта Родзька; успомніў усіх былых старшыняў Аддзелу: сп. сп. В. Стому, св. пам. У. Кабушку, А. Стагановіча і Я. Дубягу, якія сваёй безінтарасоўнай працай шмат прычыніліся да разьвіцьця Аддзелу. На заканчэньне быў адзначаны вялікі ўклад працы Жаноцкай Сэкцыі на чале зь яе старшынём З. Дубяжыхай і сяброўкамі сп. сп. Л. Гутырчыхай і М. Ханяўчыхай. Даклад у скарачэньні быў прачытаны і ў ангельскай мове для амэрыканскіх гасьцей.

З прывітаньнямі выступалі: К. Мерляк ад Галоўнай Управы БАЗА, сп. Э. Люкер — маёр (бурмістар) м. Саўт Рывэру, сп. Л. Рапацкі ад к-ту дабравольцаў в.-прэз. Ніксана, сп. Г. Пэррынэ, кандыдат у Штатную Асамблею, сп. А. Стагановіч — віцэпрэз. экзыльнае Рады БНР, сп. А. Аляксандар — праўны дараднік і апякун Аддзелу. Пісьмовыя прывітаньні былі атрыманыя ад сэнатара Кэйза, кангрэсмэна Окінклёса, маёра м. Н. Брансьвіку Паўлюса і інш.

У перапынках між прамовамі выступала танцавальная група мясцовага Аддзелу ЗБМА, якая выканала Крыжачок і Мяцеліцу. Ю. Стагановіч адыграў на піяніне канпазыцыю М. Куліковіча «Васількі», а Герда Кабушка адыграла на акардыёне вязанку беларускіх жартоўных песьняў. Мілым укладам было выступленьне Амэрыканскай Балетнай Школы. Знаёміў прысутных з праграмай сп. П. Манькоўскі. Пасьля апошняга слова старшыні Аддзелу, Акадэмія закончылася адсьпяваньнем Беларускага Гімну — «Мы выйдзем Шчыльнымі Радамі».

Пасьля Акадэміі ўсе прысутныя заселі за багата застаўленыя і ўпрыгожаныя краскамі бяседныя сталы. У часе бяседы прамаўлялі: старшыня БАД сп. А. Шукелайць, сп. Ф. Родзька, арх. Васіль, старшыня БААТ сп. В. Русак і сп. Я. Азарка. Бяседа закончылася агульнымі танцамі, якія працягнуліся да позьняе ночы.

З гледзішча карыснасьці для беларускае справы, Урачыстае Сьвяткаваньне 10-х угодкаў Аддзелу БАЗА было вельмі сваячасовым і прыцягнула ўвагу шырэйшых колаў амэрыканскай грамадзкасьці. Водклікі аб урачыстасьці былі зьмешчаныя ў 5 амэрыканскіх газэтах. Трэба аднак адцеміць, што ня ўсе сябры Аддзелу зьявіліся на Урачыстасьць і гэтым самым самі яе паменшылі. Дзеля гэтага астаецца пажадаць, каб на будучыню ўсе мы ішлі на грамадзкія імпрэзы з гэткай самай ахвотай, як на хрэсьбіны, вясельле ці бліны зь верашчакай.

**Ч. Х.**

## У НЬЮЁРСКІМ АДДЗЕЛЕ ЗБМ

Кіраўніцтва Ньюёрскага Аддзелу Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Амэрыцы сабралася 8-га лістапада сёлета дзеля абмеркаваньня пляну сваей дзейнасьці на першы квартал. На паседжаньні прысутнічалі: сп. сп. Васіль Мельяновіч (кіраўнік Аддзелу), Кастусь Варабей (заступнік кіраўніка), Міхась Казьлякоўскі (сакратар), Павал Алексы (скарбнік), Уладзімер Тарашкевіч (сябра кіраўніцтва) і Вячаслаў Станкевіч (сакратар Галоўнай Управы ЗБМ).

У выніку ўзаемнай дыскусіі быў распрацаваны наступны плян дзейнасьці:

11-га лістапада (пятніца) — сяброўская гутарка зь беларусаведы, якую правядзе сп. М. Казьлякоўскі.

18-га лістапада (пятніца) — спартовыя змаганьні з Саюзам Польскае Моладзі (валейбол і пінг-понг).

2-га сьнежня (пятніца) — сяброўская гутарка з галіны беларусаведы (правядзе сп. Вячаслаў Станкевіч) і падгатоўка да калядных сьвятаў.

9-га сьнежня (пятніца) — рэпэтыцыя праграмы калядоўшчыкаў і наведаньне рэдакцыі «Нью Ёрк Дэйлі Ньюс».

16-га сьнежня (пятніца) — сяброўская гутарка аб Калядах на Беларусі, якую правядзе сп. К. Варабей.

На каталіцкія й праваслаўныя Каляды моладзь будзе калядаваць з каляднаю зоркаю. У нядзелю 8-га студзеня адбудзецца ялінка для моладзі, а ў суботу 14-га студзеня адбудзецца вечарына ў сувязі з праваслаўным Новым Годам.

Пятнічныя зборкі будуць адбывацца ў памяшчэньні ІВКА (Трэйцяя авэню № 30, Бруклін), а ўсе іншыя імпрэзы ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне.

Аддзел у канцы лістапада адкрые кіёск зь беларускімі кніжкамі, газэтамі, й інш. які будзе адчынены кажную нядзелю ад 10-ай гадз. раніцы да 1-ай папаўдні ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры.

**Міхась Паляшук**

# Сёе-тое

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

*

Наглядаючы дзейнасьць нашых беларускіх асяродкаў на паўночна-амэрыканскім кантынэньце, нельга не заўважыць, што адно ў Тароньце да гэтага часу сыстэматычныя пікнікі (маёўкі) ўлетку й танцы восеньню і ўзімку зьяўляюцца сталымі імпрэзамі. У іншых асяродках гэтыя два роды грамадзкай дзейнасьці зьяўляюцца пакуль што адно навінкамі. Магчымасьці-ж у іх зусім ня меншыя, чымся ў Тароньце.

Ня ўсе насычаюцца прынагоднымі дакладамі й нацыянальнымі сьвятамі. Людзі, што хочуць пагуляць, пойдуць да чужых, калі свайго не зарганізуеш. Пойдуць і грошы панясуць, а нашы арганізацыі й надалей будуць бакамі трэсьці Ня ўсе-ж адклікаюцца на патрыятычныя заклікі, якімі-б моцнымі аргумэнтамі ня былі яны падпёртыя.

У Тароньце ня толькі ўсе свае, але ўжо й чужыя звыклі да Беларусаў прыходзіць. Карысьць двайная: свой грош у сваю кішэню трапіць ды й грамадзкі арганізм мацуецца (не, ня дай Божа, каб толькі ў выпіўках!).

Даволі-ж нас чужыя ўжо даілі. Віншаваць даводзіцца тыя арганізацыі, якія ўжо й чужых умеюць за кішэню патрэсьці.

*

Дзяліць на сацыяльныя клясы не пачнем, але з большага Беларусаў, пражываючых на эміграцыі, паводля матар'яльнага стану можна аднесьці да дзьвёх групаў: тых, што маюць менш, і гэных, што ўжо й добра пасыцелі. Да першых належаць работнікі, сяляне, рамесьнікі й добрыя прафэсіяналістыя, да другіх — перадусім лекары й інжынеры.

Асьмелімся цьвердзіць, базуючыся на сваіх назіраньнях, што да гэтага часу першая група больш прыносіла ўклад у нашу рэлігійную, грамадзкую й палітычную працу. Дый ня толькі сваймі сіламі, але й фінансава. Гэткі стан, на нашу думку, далей трываць не павінен.

Калі нашы добра зарабляючыя й пасыцеўшыя суродзічы зь нейкіх прычынаў ня могуць прысьвячаць часу для простай працы пры нашых асяродках, то чаму-ж тады скупіцца з матар'яльнай дапамогай, аглядаючыся на тых, што менш маюць? Ці-ж зь імі вам раўняцца?

У нас няма школьных падручнікаў, памалу растуць новыя сьвятыні, галадаюць незаспакоеныя собскімі літаратурнымі творамі (старымі й новымі) нашы выгнаньнікі, не даядаюць ахвярныя працаўнікі беларускай сэкцыі гішпанскага радыя й г. д. Ці-ж усё пералічыш?

Нясьмелыя й надта-ж субтэльныя да гэтага часу напамінкі некаторых не зварухнулі амаль нікога зь людзей, што знаходзяцца ў летаргу матар'яльных выгадаў ды час ад часу падкідваюць нашым інстытуцыям жабрачыя скарынкі, ці не спадзяючыся й за гэта фігураваць у залатых кнігах. Як-жа ня выгадна забыцца, адкуль самі прыйшлі, ды й ці не лягчэй-жа дзяліцца з суродзічамі спачуваньнямі да тых, што сягоньня калеюць, галадаюць, марна прападаюць!

Паказвацца час-ад-часу на імпрэзы для вачэй людзкіх ды кідаць адчэпнага — гэта, сьціпла гаворачы, ня толькі не пабеларуску, але й не па хрысьціянску. Тыя, што стала й сыстэматычна працуюць, ахвяроўваюцца маюць маральнае права й абавязак, на нашу думку, неадкладна трывогу падымаць, а калі трэба, то й пальцамі паказаць. Які-ж іншы выхад, людзі добрыя? Прабачце, ня маем тут наўвеце адзінак, што сыстэматычна працуюць і матар'яльна памагаюць. Але дзе-ж тая большая рэшта?

Што дарэчы робіць Аб'еднаньне Беларускіх Лекароў на Чужыне? Некалі-ж даволі яно нашумела, але тады былі іншыя часы: грошы на дапамогу студэнтам зьбіралі. Ці яно шчэ й сяньня існуе? А калі не, дык калі й чаму адбыліся хаўтуры?

**М. Козыр**

*Фэльетон*

# Літаратурны смоўж

Крытыка бывае розная: пасыўная, агрэсыўная, аглабельная, падхалімная, дытырамбная і навет сэксотаўская. Усе гэтыя пералічаныя віды, аж да апошняга, знаёмыя беларускаму крытыку Алесю Кучару. Ён на крытыцы добра знаецца. Сам кажа: «У гэтай справе зубы зьеў».

І узапраўды. Ніхто ня мог так высока ўзабрацца на літаратурны Алімп, як ён. Усе крытыкі сьлізгаліся і падалі долу, ці інакш кажучы, у падвал ГПУ. Ужо што казаць! Быў такі крытык Бэндэ. Марксыстоўскі тэарэтык у беларускай літаратуры! Пісаў, як аглобляй біў. Такога, здавалася, і чорт не скалупне. Ажно і ён зьляцеў з трыбуны. Толькі адзін Кучар трымаўся. Ён, як той вуж сьлізкі. Умеў выкручвацца.

Быў час, калі Алесь Кучар сьпяваў дытырамбы Андрэю Александровічу: паэта сталінскай эпохі, Андрэйка-канарэйка і нешта падобнае. З падхалімнай крытыкай пад'яжджаў. Лашчыўся і мурлыкаў, як кот. Александровіч меў тады пэрспэктывы на ўладу, на становішча старшыні Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў БССР. Хітры Кучар нешта камбінаваў.

Але фартуна павярнула кола. Александровіч неўспадзеўку пацярпеў фіяска. І тады Алесь Кучар зьмяніў катрынку на барабан: выступіў супраць яго з аглабельнай крытыкай. А потым, калі Андрэя Александровіча арыштавалі, дык ужо ня толькі ў прэсе, але і на сходах і ў розных закутках Кучар лаяў паэту і абзываў ворагам народу.

Такую самую махінацыю ён зрабіў і з паэтам Уладзімерам Хадыкам. Спачатку хваліў ягоныя вершы. Салодкім малясам паліваў: бачыце, — казаў ён, — які самабытны арыгінальны паэта! З высокай тэхнікай, з тонкімі пачуцьцямі...

А потым — калі паэту Хадыку арыштавалі, плюхнуў памыямі: такі-сякі бяздарны, нікчэмны, вораг народу. Ня лепш абыйшоўся Кучар і зь Язэпам Пушчам...

Зь некаторымі паэтамі Кучар зусім лёгка спраўляўся. Пагаворыць зь імі прыватна, па-прыяцельску, і яны адзін за адным зьнікалі з гарызонту. Чорны воран НКВД іх хапаў. А Кучар далей дзейнічаў...

Цяпер зьмянілася сытуацыя. Андрэй Александровіч, пасьля шматгадовай ссылкі, вярнуўся ў Менск. Уладзімер Хадыка, які загінуў у канцлягеры, таксама рэгабілітаваны. Кнігі гэтых паэтаў перавыдаюць. Сучасныя беларускія крытыкі пра іх добра пішуць. Алесь Кучар глядзіць на ўсё гэта і вачыма лыпае. Ёнжа на гэтых паэтаў пляваў, балотам кідаў. А цяпер што рабіць? Пісаць зноў дытырамбы? А можа лепш выцягнуць з архіву старое барахло, атрэсьці пыл і перадрукаваць? Не, вырашыў Кучар, пакуль-што ўстрымацца.

І ён пачаў пісаць крытычныя артыкулы аб сучаснай беларускай прозе. Ня можа цішком сядзець. Жылка крытыка вычуваецца.

Праўда, цяпер Алесь Кучар ня толькі крытык. За апошнія гады ён раптам вытыркнуўся, як драматург. Піша п'есы. І аб савецкіх патрыётах і аб моладзі, і аб усім, што патрабуе партыя. Ён камуністы і ўва ўсім спрытны. Мае навет ордэн «Знак Пашаны». Заслужыў, бачыце. За лаянку, за паклёпы, за даносы. Ад каго-ж такая пашана? Падумайце! Толькі факт фактам, мае ардэнок. І яму ўсюды свабодная дарога. Ён і ў кіно лезе. У хаўрусе зь іншымі два сцэнарыя напісаў.

Вы пытаецеся, ці мастацкія ягоныя творы? На гэтае пытаньне ніхто вам не адкажа. Крытыкаваць яго і алімпійскія багі не адважваюцца.

Нядаўна Алесю Кучару споўнілася 50 год. З гэтай нагоды ў часапісе «Маладосьць» № 9 зьмешчаны ягоны патрэт. Глядзіш на фото — той самы смоўж. Тонкія, прыцінутыя вусны хаваюць цынічную ўсьмешку, а вочы глядзяць кудысьці ўправа, шукаюць касмапалітаў і нацдэмаў. Во-во, здаецца, ізноў пачуем кучарскую лаянку. Ён на гэта адмысловы майстар.

**Кастусь Рамановіч**

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.

Выдавец: Уладзімер Бортнік

РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.